


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.*

№ 34 (115). 19 — 25 жніўня 1999г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 30.000 руб.


## ЗАБІЛІ СТАРШЫНЮ КАЛГАСА

**У суботу, 14 жніўня, быў забіты старшыня калгаса "Прагрэс" Мікалай Анішчык.**

Гэта здарылася вечарам. У дом старшыні калгаса, які знаходзіцца ў вёсцы Азярніца, уварваўся шафёр гэтай гаспадаркі Іван Анішчык і са стрэльбы выстраліў у чалавека.

Нагадаем, што 43-гадовы Мікалай Анішчык нарадзіўся ў вёсцы Сурынка. З 1995 года ўзначальваў калгас "Прагрэс".

Па факту злачынства слонімская пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## У ДОМ САВЕТАЎ ПАДКЛАЛІ «МІНУ»

**Раніцай, 16 жніўня, у абласны штаб грамадзянскай абароны патэлефанаваў невядомы мужчына і паведаміў, што ў Слоніме замініраваны дом саветаў.**

Па сігналу трывогі ўсе супрацоўнікі ўстаноў і жыхары суседніх дамоў былі эвакуіраваны. Сапёры, якія прыехалі з Гродна, уважліва агледзелі ўсе пакоі шасціпавярховага будынка, аднак выбуховага прыстасавання не знайшлі.

Нагадаем, што на працягу апошніх месяцаў у Слоніме шэсць разоў "мініравалі" чыгуначны вакзал і адзін раз будынак СШ №2.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## В Слониме состоялась встреча гражданки США с белорусской женщиной, спасшей ее в годы второй мировой войны

11 августа в Слониме состоялась встреча гражданки США Эстер Фол с белорусской женщиной Еленой Вестерлих, спасшей ее в годы второй мировой войны.

Как сообщил БелаПАН президент Всемирной ассоциации белорусских евреев Яков Гутман, г-жа Фол (урожденная Паевская), которая сейчас преподает химию в одном их колледжей Нью-Йорка, родилась в слонимском гетто в ноябре 1941 года, в еврейской семье скрипача и домохозяйки. Спустя месяц ее отца расстреляли, а мать направили на принудительные работы. На местной мыловаренной фабрике женщина познакомилась с жительницей Слонима Еленой Вестерлих, и вдвоем они разработали план спасения восьмимесячной Эстер. Ребенка оставили у входа в дом престарелых, где в это время работала Е.Вестерлих, которая и стала присматривать за девочкой, направленной в детский дом. Однако в связи с принудительным вывозом на работы в Германию Е.Вестерлих на время потеряла Эстер. По возвращении на родину она передала Эстер ее дяде, который увез шестилетнюю девочку в Польшу, так как мать ее погибла в партизанском отряде. Затем была попытка эмиграции в Палестину, жизнь в концентрационном лагере на острове Кипр, затем — в Израиле, откуда впоследствии Эстер Фол переехала к своим родственникам в США.

Все эти годы она хранила в памяти образ какой-то женщины и лишь при встрече со своей спасительницей поняла, что это — образ Елены Вестерлих. Эстер Фол выразила ей искреннюю признательность и намерение оформить соответствующие документы в консульстве Израиля в Нью-Йорке для присвоения Елене Вестерлих звания Праведника народов мира. Как известно, это почетное звание присваивается решением специальной комиссии мемориального института катастрофы и героизма европейского еврейства "Яд ва-шем", находящемся в Иерусалиме (Израиль). Только за последние шесть лет это звание было присвоено более чем 150 гражданам Беларуси.

**БелаПАН**

**НАВІНЫ**

### Фільм пра Юзэфа Шыманчыка

**Польскія журналісты знялі фільм пра вядомага фатографа Юзэфа Шыманчыка.**

У гады Вялікай Айчыннай вайны Юзэф Шыманчык жыў у Слоніме, меў тут сваю фотамайстэрню. Калі немцы адступалі, у агні згарэлі будынак, шмат фотаздымкаў і негатываў. Але сёе-тое Юзэфу Шыманчыку ўдолося захаваць, а таксама фотаздымкі Слоніма 1943 года. Некаторыя з іх друкаваліся на старонках "ГС".

Цяпер Юзэф Шыманчык жыве ў польскім горадзе Лодзь. Яму 90 гадоў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Сведка з Ізраіля

**Нядаўна Дзятлава наведаў жыхар Ізраіля Анатоль Фунт.**

У гады Вялікай Айчыннай вайны гэты чалавек быў разведчыкам партызанскага атрада "Барацьбіт", які дзейнічаў на Дзятлаўшчыне. Сувязной у гэтым атрадзе была жыхарка Дзятлава Зінаіда Грынеўская, але лёс склаўся так, што Зінаіда Міхайлаўна да гэтага часу не мела адпаведных дакументаў аб тым, што яна з'яўлялася ўдзельніцай Вялікай Айчыннай вайны. Каб атрымаць іх, патрэбна было падцвярджэнне сведкі. І вось Анатоль Фунт, які мае 80 гадоў, прыехаў, каб у натарыяльнай канторы засведчыць факт удзелу Зінаіды Грынеўскай у барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Урок праз дваццаць гадоў

**Цяпер у школьнікаў канікулы, аднак у СШ №1 г. Слоніма днямі прайшоў "урок жыцця".**

Яго правяла з дваццацю былымі выпускнікамі 1979 года іх былы класны кіраўнік Раіса Іванаўна Каласоўская.

З розных краін з'ехаліся былыя вучні ў Слонім, каб расказаць любімай настаўніцы пра свой жыццёвы шлях. Ваеннаслужачы Ігар Ляшчынскі прыехаў з Чыты, выкладчыца хіміі Кацярына Рукай — з Кастрамы, а Алег Аляксандровіч — з Калінінграда...

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### А ні лыжкі, а ні міскі

**У мастоўскай бальніцы адчуваецца брак пасуды. Закупіць яе немагчыма.**

Адсутнічаюць сродкі. Адно спадзяванне — гуманітарная дапамога. Але апошняе паступленне было тры гады назад.

**Антон МАКЕЙ**

### Съезд татарской молодежи

**Съезд татарской молодежи Беларуси прошел 14 августа в Слониме.**

Как сообщил председатель слонимской организации Белорусского объединения татар-мусульман "Аль-Китаб" Сулейман Байрашевский, в съезде приняли участие около 150 представителей татарских общин из 13 городов Беларуси и гости из Литвы. Спонсором съезда было белорусское отделение российской нефтяной компании "Лукойл".

**БелаПАН**

**ГОРАД**

## Абяцанні і справы

Дарогі — гэта адвечная наша праблема. Асабліва ў горадзе. Рамантуюць іх часта, але малаэфектыўна. Тэхналагічна ў гэтых адносінах мы далёка адсталі ад нашых суседзяў палякаў ці літоўцаў. І вучыцца ў іх не хочам.

Сёлета пачаўся капітальны рамонт Чырвонаармейскай вуліцы, якая ў апошнія гады знаходзілася ў жахлівым стане. Менавіта па ёй у красавіку гэтага года праехаў два разы Аляксандр Лукашэнка. Наўрад ці спадабалася яму галоўная вуліца Слоніма...

А вось на Баранавіцкай вуліцы, пра якую мы неаднаразова пісалі ў мінулым годзе, актыўных работ пакуль не вядзецца. Праўда, старшыня гарвыканкама Алег Лакцюшын у траўні паабяцаў, што сёлета яна будзе заасфальтавана, але толькі часткова. Мясцовыя жыхары чакаюць, калі нарэшце, выканае свае абяцанні.

Гэтым летам Алег Лакцюшын меркаваў адрамантаваць і заасфальтаваць Косаўскі тракт ад вайсковай часткі да шашы на Дзеравянчыцы. Лета заканчваецца, а "воз и ныне там"... А вось на Мінскім тракце нядаўна зрабілі "ямачны" рамонт, залатаўшы большыя "варонкі", якія рэйсавым аўтобусам даводзілася аб'язджаць і па сустрэчнай паласе, і па абочыне. На жаль, ад гэтага вуліца не стала лепшай. На такіх дарогах і ламаецца тэхніка...

**Сяргей ЁРШ**

**ПОШТА**

## Вакол царквы

У нумары 31 "ГС" ад 29 ліпеня - 4 жніўня на першай старонцы вашай газеты была надрукавана нататка "Святейшы візіт" аб побыце ў Слоніме "патрыярха Беларускай аўтакефальнай народнай праваслаўнай царквы" Юрыя Рыжага-Рыжскага. Як святар, я не мог не адрэагаваць на гутарку сп. Міколы Кановіча з прадстаўніком раскольніцкіх дзеячоў "архімандрытам Іаанам" аб яго сумеснай з Рыжы-Рыжскім дзейнасці. Бяда ў тым, што гэтыя самазванцы, апранутыя ў праваслаўныя рызы і святарска-епіскапскія рэгаліі былі прадстаўлены як сапраўды важныя персоны. "Сцеражыцеся, — гаворыць Збавіцель Хрыстос ў Евангеліі, — каб хто не спакусіў вас, бо многія прыдуць пад Маім імем..., і многіх спакусяць... Бо паўстануць ілжэхрысты і ілжэпрарокі, і пакажуць вялікія знакі і цуды, каб прывабіць, калі магчыма, і выбраных." (Мацвея 24, 4-5, 24).

Вельмі важна, каб Вы перасцераглі людзей ад ашуканцаў, у якіх ад маладосці ідэал Астапа Бэндэра з'яўляецца мэтай жыцця. Бяда будзе людзям, якія пойдуць следам самазванцаў.

**Святар Ян А.М.**

**Ад рэдакцыі**

Газета не дае "ацэнку" дзейнасці той ці іншай рэлігійнай арганізацыі, будзь то царква, касцёл, мячэць ці нейкая секта. Аднак на старонках нашага тыднёвіка выказацца маюць магчымасць святары розных веравызнанняў. А ўжо "якому Богу маліцца" — справа вернікаў.

## Хочаш здаць бульбу — плаці за даведку

Нядаўна вырашыў здаць у нарыхтоўчую кантору райспажыўсаюза 300 кілаграмаў мінулагодняй бульбы. На прыёмным пункце мяне запыталі: "Чым дакажаце, што бульба ваша?" Прыйшлося ісці ў міжраённае БТІ па даведку, што маю свой участак зямлі. За выдачу даведкі мне прыйшлося выкласці 150 тысяч рублёў.

Праз некаторы час жонка прапанавала здаць яшчэ некалькі мяхоў бульбы. Але, успомніўшы даведку, у мяне знікла жаданне здаваць бульбу.

**Яўген ШЫШКО, жыхар г. Слоніма**

**ЗДАРЭННІ**

### Мать зарезала сына

**В деревне Лежейки Дятловского района мать лишила жизни собственного 45-летнего сына.**

Сын работал оператором машинного доения сельскохозяйственного предприятия "Беларусь".

В ходе возникшей ссоры мать схватилась за нож и нанесла своему чаду смертельный удар в сердце, от которого тот на месте скончался.

**Михаил ОКУЛКО**

### Гвалтаўнік затрыманы

**На мінулым тыдні ў адной з вёсак Зэльвенскага раёна ледзь не адбылася трагедыя.**

На вучаніцу 10 класа мясцовай школы, якая вярталася дамоў з дыскатэкі, напаў незнаёмы мужчына і спрабаваў згвалтаваць яе. На крык дзяўчыны збегліся жыхары вёскі і затрымалі маньяка. Ім аказаўся 20-гадовы жыхар г. Светлагорска, непрацуючы П.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

### Пацягнула на салодкае

**На мінулым тыдні двое непаўналетніх Р. і В. залезлі ў хлеў жыхаркі завулка Пераскок г.Слоніма.**

Яны ўкралі тры мяхі цукру на суму 22 млн. рублёў. Выкарыстаць цукар малалетнія злодзеі не паспелі, бо былі затрыманы міліцыяй.

### Абакрала аднавяскоўца

**Даярка калгаса "Рассвет" Слонімскага раёна В. нядаўна "наведала" падвал жыхара з Маладзёжнай вуліцы вёскі Вострава К.**

Яна ўкрала слоікі з кансерваванай гароднінай на суму 4 млн. рублёў. Узбуджана крымінальная справа.

### "Белдзяржстрах" ад крадзяжоў не застрахаваны

**Днямі ў Зэльве невядомыя злодзеі залезлі ў будынак мясцовага аддзялення "Белдзяржстраху", які не ахоўваўся.**

Яны ўкралі два камп'ютэры, тэлефон і факс. Міліцыя вядзе пошук злодзеяў.

### Пакуль выпівалі — грошы ўкралі

**На мінулым тыдні ў міліцыю звярнуўся слонімец Л.**

Ён паведаміў, што падчас сумеснай выпіўкі з пяцю сябрукамі ў адным з дамоў на вуліцы Пушкіна, у яго з кішэні зніклі 65 млн. рублёў. Выехаўшыя на месца здарэння аператыўнікі ўстанавілі, што грошы ў слонімца ўкралі гаспадыня дома і яе сяброўка.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# БУДЗЕМ З ПАМІДОРАМІ



Фота Мікалая Супруна

Багатым атрымаўся сёлетні ўраджай агуркоў і памідораў у жыхароў Слонімшчыны. А ў Івана Коткі (на здымку), які жыве на вуліцы Кірава, памідоры выраслі вагой 500-700 грамаў.

— Я сорак пяць гадоў жыву ў Слоніме, але ніколі ў маім прыватным агародзе не было такіх вялікіх памідораў, — прызнаўся Іван Герасімавіч.

Сапраўды, памідоры ў агародзе слонімца выраслі на славу. На цэлы год хопіць есці і сабе, і дзецям, і ўнукам.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ГОРАД

# "Як у памыйніцы жывём..."

На мінулым тыдні наша рэдакцыя атрымала ліст ад пакрыўджаных жыхароў завулка Мендзялеева. Справа у тым, што ў той час, калі Чырвонаармейскую вуліцу і амаль усе заезды на яе заасфальтавалі, то заезд на завулак Мендзялеева пакінулі як ёсць. "Пад час дажджу тут стаіць вялікая лужына. Людзі сталага ўзросту і дзеці скачуць праз яе. Вада залівае агарод жыхарцы завулка Тарасавай", — гаварылася ў лісце.

Карэспандэнт "ГС" вырашыла праверыць усе факты. Па дарозе звярнула ўвагу на астатнія завулкі. Сапраўды, яны былі заасфальтаваныя, хаця і не да самага канца. Лужы на Мендзялеева не аказалася, яе, як потым расказалі жыхары, уже адкачалі, бо вада лілася ў падвалы. Я зайшла да спадарыні Тарасавай. Гаспадыня пачала скардзіцца: "Як у памыйніцы жывём. Нікому да нас справы няма. Кожны раз, калі ідзе дождж, нас залівае. У магазін ходзім праз суседнюю вуліцу... Калі рабілі Чырвонаармейскую, мы прасілі, каб і ў нас трохі заасфальтавалі, але так нічога і не дабіліся. Сказалі, што нам трэба паднімаць хату, але дзе ж узяць такія грошы на гэта?.."

Мы з жанчынай выйшлі на вуліцу, каб распытаць аб усім іншых суседзяў. Сустрэлі мужчыну, які, даведаўшыся па якой справе я прыйшла, пачаў расказваць: "Я — інвалід Чарнобыля, перанёс два інсульты. Калі выпісаўся з бальніцы, давялося капаць зямлю, каб вада не ішла ў агарод, а мне ж нельга... На днях прыязджалі рабочыя, дык за ўвесь дзень толькі і зрабілі, што паднялі бардзюры...", — скардзіўся хворы чалавек.

"Вы ішлі пешшу да нас?" — запыталася жанчына. Я сцвярджальна кіўнула. "Дык вы павінны былі бачыць тую вузкую дарожку, якая вядзе да дамоў начальнікаў, амаль да самых туалетаў заасфальтавалі. А ў нас і пяці метраў асфальту не могуць пракласці. Крыўдна."

Па каментарый я звярнулася да начальніка ДЭУ Івана Якімца. "Асфальт на завулку Мендзялеева класці не будуць, бо грошай няма. Але мы пачалі працу па пад'ёму бардзюраў, каб вада не цякла ў агароды. Праз тыдзень павінны ўсё закончыць", — адказаў Іван Мікалаевіч.

**Вольга ШЫНКЕВІЧ**

НАВІНЫ

## У Дзятлаве пазелянелі азёры

**Вада ў трох дзятлаўскіх азёрах у канцы лета стала ядавіта-зялёнага колеру. Нечакана пачала дохнуць вялікая рыба.**

Як патлумачыў галоўны ўрач Дзятлаўскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Аляксей Малашанка, гэта выклікана буйным ростам пэўнага сорту водарасцей. Яны запаланяюць вадаёмы не заўсёды, а толькі, калі тэмпература паветра на працягу доўгага часу ўтрымліваецца ў межах 25-30 градусаў. Спецыялісты кажуць, што аматарам купання такая вада шкоды не прыносіць. А з прыходам халадоў, водарасцей не стане.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Ахоўнікі саўгаснай маёмасці

**У саўгасе "Мастоўскі" усур'ёз вырашылі змагацца са злодзеямі.**

Створана аператыўная група з двух чалавек, на якіх ускладзены адпаведныя абавязкі. У яе склад увайшлі пажарнік гаспадаркі — былы участковы міліцыянер, які раней быў асуджаны за перавышэнне службовых паўнамоцтваў — і яшчэ адзін былы міліцыянер. Нават службовы вопыт не дапамог ахоўнікам у пошуку злодзеяў. А вельмі ж стараліся. Адзін з іх, які назіраў за працай камбайнёраў у бінокль, нават пацярпеў: упаў з дрэва, дзе знаходзіўся яго патаемны назіральны пункт.

## Дзіўныя бежанцы са Смаленшчыны

**На тэрыторыі Правамастоўскага сельсавета з'явіліся чатыры сям'і перасяленцаў.**

Яны прыехалі са Смаленскай вобласці. Кіраўніцтва мясцовага саўгаса прадаставіла ў вёсцы Масты Левыя ім чатыры дамы, дзе ніхто не пражываў, і аплаціла гаспадарам іх арэнду. Акрамя таго мелася прапанаваць працу на ферме і аплаціць перавозку кантэйнераў. Але праз пэўны час людзі пачалі скардзіцца дырэктару гаспадаркі, што новыя суседзі апусташаюць іх агароды. Пасля гэтага прыездужым было адмоўлена ў аплаце жылля, працы ды перавозцы кантэйнераў. Перасяленцы апынуліся на вуліцы. Затым яны падаліся ў вёску Малькавічы, але з-за дрэнных паводзінаў і там ім адмовілі ў жыллі і працы. Яны вярнуліся ў вёску Левыя Масты, размясціліся ў палатках і працягваюць свой папярэдні занятак.

**Антон МАКЕЙ**

ПРОИСШЕСТВИЯ

# Убежать не удалось...

**В Слониме задержан мужчина, подозреваемый в убийстве и изнасиловании 27-летней продавщицы магазина деревни Лазовцы Ивацевичского района.**

Напомним, что преступление было совершено 23 июля около 16.00. Труп молодой женщины, матери двоих детей, с пятью ранами головы обнаружила местная пенсионерка. Из магазина пропали материальные ценности. На месте преступления работали следственно-оперативная группа, сотрудники прокуратуры и представители местной милиции.

Были веские причины подозревать 26-летнего Сергея Литовко в краже, изнасиловании и убийстве. Мужчина в декабре 1996 года был осужден и находился на вольном поселении — работал на деревенском животноводческом комплексе. В тот день он не вернулся ни на работу, ни на поселение. Местность прочесывали военные, милиция и личный состав исправительно-трудовой колонии.

В ходе розыскных мероприятий установили слонимский адрес, где мог отсиживаться беглый преступник. 28 июля в Слоним выехала оперативная группа УВД Брестского облисполкома. В 9.30 в квартиру дома по ул. Карла Маркса, 68, постучали. Но подозреваемый не желал разговаривать. Он оказал физическое сопротивление работникам милиции и, выпрыгнув в окно, пытался скрыться. Его не остановили даже два предупредительных выстрела. Задержал мужчину старший оперуполномоченный уголовного розыска УВД майор Владимир Кучинский. Беглец был арестован и помещен в изолятор временного содержания в Ивацевичах. Главный подозреваемый по делу в д. Лазовцы подозревается также в краже, что имела место в ночь на 27 июля из столовой в д. Сеньковщина Слонимского района.

**Ольга КУРИШКО, "БК"**

НАШЕ ИНТЕРВЬЮ

# НАГРАДА, ПОЛУЧЕННАЯ ЧЕРЕЗ ДВА ГОДА

**За высокое боевое мастерство и большой вклад в воспитание и обучение личного состава, командир 3-го танкового батальона подполковник Юрий Волков первым в 11-ой механизированной бригаде в 1997 году был представлен к ордену "За службу Айчыне" 3-й степени. Но получил он свою высокую награду только спустя два года, — в начале июля 1999 года, будучи уже гражданским человеком. Корреспондент "ГС" встретился с Юрием Волковым и попросил ответить его на некоторые вопросы.**



Фото Николая Супруна

*Юрий Волков с сыновьями*

**— Юрий Вениаминович, когда вы начали службу в Слониме?**

— В 1992 году я вместе с личным составом третьего танкового батальона первыми прибыли из Германии в Слоним и начали готовить базу к встрече и расквартированию остальных подразделений бригады. Начались напряженные месяцы боевой и служебной подготовки личного состава батальона. Трудились "до седьмого пота", и пришел первый успех. В 1993 году на Обуз-Лесновском полигоне проходили учения с участием наблюдателей из стран военного блока НАТО. Личный состав вверенного мне батальона показал высокое боевое мастерство. Все без исключения солдаты и офицеры прекрасно водили машины и хорошо стреляли. Многие из них были поощрены командованием корпуса и бригады. А мне было досрочно присвоено очередное воинское звание "подполковник".

**— Осенью 1997 года командование бригады представило вас к награждению орденом "За службу Айчыне" третьей степени? Этой высокой награды вы были удостоены за личные заслуги?**

— Я счастлив, что первым был представлен к этому ордену, но не расцениваю его как свою лич-ную награду. Это оценка коллективного труда всего личного состава третьего танкового батальона, который считается одним из лучших подразделений в бригаде, в которой получили становление и рост многие белорусские офицеры.

**— А как случилось, что вас представили к ордену "За службу Айчыне" третьей степени во время службы в механизированной бригаде, а получили вы его уже будучи гражданским человеком?**

— Дело в том, что указ президента Беларуси о награждении меня орденом был подписан 29 мая 1998 года, а 23 августа 1998 года я подал рапорт об увольнении из Вооруженных Сил. Вручение же наград состоялось 30 июня 1999 года в резиденции президента в Минске, где мне, в числе 35 других военнослужащих, Александр Лукашенко вручил орден.

**— Почему вы ушли из армии?**

— Конечно, такое решение мною было принято не мгновенно. Этому способствовали определенные причины: для меня был утерян смысл и престиж военной службы. Я не видел реальной перспективы роста, да и материально-бытовые условия офицера в настоящее время находятся не на должном уровне. Оставив армию в 37 лет, думаю, что найду свое достойное место в жизни.

Беседовал **Валентин ЧУРИЛО**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая, 109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............2-14-39
..............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 18 жніўня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7100 экз.
Заказ № 2222
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

ЗАХАПЛЕННІ

## Першы ўдзельнік 5-га Міжнароднага пленэра юных мастакоў



**Дванаццацігадовы слонімскі мастак Уладзімір Камчыц нядаўна вярнуўся з Міжнароднага пленэра юных мастакоў, які ўжо пяты раз збіраў разам у Мінску маладых і зусім юных мастакоў з Беларусі, Літвы, Крыма і Расіі.**

Праграма пленэра ўключала ў сябе наведванне Мінска, Полацка, Віцебска і Вілейкі. Па словах Уладзіміра, яны малявалі ўяўны свет, бо пленэр быў прысвечаны знакамітаму мастаку-абстракцыяністу Казіміру Малевічу. Але сам Уладзімір больш працуе ў жанры пейзажнага жывапісу. Краявіды любай Слонімшчыны складаюць асноўны змест яго твораў. І тым не менш, гэта не перашкодзіла яму заняць 5-е месца ў конкурсе плакатаў, які арганізатары пленэра ладзілі ў Вілейскім аздараўленчым комплексе.

З шасці гадоў Уладзімір наведвае студыі выяўленчага мастацтва. І не дарэмна кажуць, што шчаслівы творчы лёс мастака — у многім заслуга яго настаўніка. Ужо два гады Уладзімір займаецца ў студыі, якой кіруе Яўген Іваноў. Яго былыя вучні Дзмітрый Хілько, Арцём Загдай, Дзмітрый Палуносік вучацца ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя Глебава пры Акадэміі мастацтваў. А сёлета туды паступіў і Пётр Хілімончык. У гэту элітную навучальную установу штогод набіраюць толькі 16 чалавек з усёй Беларусі, і трэба мець не толькі талент, але і добрую папярэднюю падрыхтоўку, каб туды паступіць вучыцца. І такую падрыхтоўку юныя мастакі атрымліваюць у свайго настаўніка Яўгена Іванова.

Але не толькі педагагічнае майстэрства і талент мастака патрэбны ў наш час, каб даць "пуцёўку ў жыццё" таленавітаму дзіцяці. Усе творчыя мерапрыемствы — семінары, выставы, пленэры — патрабуюць фінансавых выдаткаў. Для таго, каб Уладзімір Камчыц трапіў на пленэр, яго настаўнік разам з бацькамі недзе каля месяца хадзілі па розных інстанцыях і ўстановах горада ў пошуках грошай. Дапамогу знайшлі ў прадпрымальніка Рамана Гіля, у фірме "Кодак", у мэра горада Алега Лакцюшына ды ў рэдакцыі "Газеты Слонімскай" (рэкламны артыкул у №30). Ні Міністэрства культуры, ні Саюз мастакоў Беларусі, аказваецца, сродкаў на правядзенне такіх мерапрыемстваў не маюць.

Суцяшае адно, што наша бедная краіна — багатая на таленты. І хто ведае, магчыма юны мастак са Слоніма Уладзімір Камчыц з часам стане такім жа гонарам беларускай зямлі, як Казімір Малевіч, Марк Шагал ці Язэп Драздовіч.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ЧАС І ЛЮДЗІ

# НЕ ТЫЯ КАРАНІ

На вясковым падворку звінела вяселле, а мы з ім сядзелі ў глыбіні двара пад старой грушай і размаўлялі шчыра, па-сваяцку. Уласна кажучы, з Тадэвушам мы сустрэліся ўпершыню, хоць і былі недалёкай раднёй. Справа ў тым, што бацькі нашы жылі ў розных раёнах, сустракаліся вельмі рэдка, а мы дык наогул ведалі адно пра аднаго толькі са слоў іншых. Тадэвуш быў вельмі адукаваным чалавекам, закончыў інстытут, аспірантуру, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Ён шмат ведаў не толькі ў той галіне, якую вывучаў, але і добра разбіраўся ў мастацтве, літаратуры, палітыцы, на ўсё меў свой уласны погляд.

— Калі б ты быў у партыі, гэта станоўча паўплывала б на кар'еру. Чаму не ўступаў? - пацікавіўся я, спытаў я.

— Душа мая не хілілася да партыі, разумееш? А я не хацеў яе прымушаць. Карані ў мене не тыя.

Бачачы, што я нічога не разумею, пачаў тлумачыць.

— Бацька мой быў з беднай сям'і. Маленькі кавалачак зямлі карміў дзевяць чалавек. Калі яму было дванаццаць гадоў, памёр бацька, а праз чатыры гады не стала і маці. Шасцёра братоў і сястра караскаліся па жыцці як маглі: служылі ў маёнтку пана, працавалі ў багатых вяскоўцаў.

Калі бацька стаў дарослым, упадабаў дзяўчыну са сваёй вёскі. Яна таксама не была да яго раўнадушнай, але пра тое, каб паслаць сватоў і ажаніцца, не магло быць і гаворкі. Аднойчы бацька вырашыў пагутарыць са сваім будучым цесцем, іншымі словамі, правесці разведку. А той яму і сказаў: "Аддам за цябе дачку толькі тады, калі купіш зямлі, каня, пабудуеш хату." Будучы цесць быў чалавек зажытачны і не хацеў браць зяцем хлопца беднага, хоць працавітага і прыстойнага.

— Нічога сабе ўмова! Якая ж нявеста будзе столькі чакаць?

— Уяві сабе, што мама чакала. Бацька працаваў на самай цяжкай рабоце. За чатырнаццаць гадоў купіў зямлі, каня, пабудаваў хату і толькі потым паслаў сватоў да сваёй каханай. Было яму ў той час сорак гадоў. А маме на сем гадоў менш.

Сталі жыць-пажываць, дабро нажываць. Непрыкметна наступіў 1939 год. А з ім прыйшло вызваленне. І пачалі ў вёсцы гаварыць, што недалёкі той час, калі сялян "вызваляць" ад уласнай зямелькі, ад коней. Многія былі ў роспачы. Мой бацька таксама. І яго няцяжка зразумець.

А тут вайна. Калі ад немцаў была вызвалена наша мясцовасць, мужчын пачалі браць на фронт. Узялі і майго бацьку. Але перш, чым пайсці ў бой, салдат павінен быў прыняць прысягу. Тут мой бацька і ўпёрся: не буду!

— Ты што, пад трыбунал захацеў?! Як гэта — не будзеш прымаць прысягу? - крычаў маёр.

— А так. Не буду і ўсё. Я служыў у польскім войску і прысягаў яму. І больш ніякаму іншаму ў сваім жыцці прысягаць не буду, бо які гэта салдат, што ўчора прысягаў польскаму войску, сёння рускаму, а заўтра французскаму. Прысяга для салдата — святое. І я яе не парушу. А ваяваць супроць фашыстаў буду. Адпраўце мяне ў польскае войска, і я там буду ваяваць, калі тут без прысягі няможна ісці ў бой.

І яго адправілі. Толькі не ў польскае войска, а туды, куды Макар цялят не ганяў. Ён быў не адзін такі, яшчэ набралася нямала "прынцыповых". У Сібіры на лесапавале, апухшыя ад голаду, апаленыя холадам, яны паміралі страшнай смерцю.

Мой бацька выжыў. Мусіць, Бог выбраў некаторых, каб прайшлі праз гэта пекла і выжылі. Адпакутаваўшы "паложанае", вярнуўся ў родную вёску. Якраз паспеў да "гістарычнага моманту", калі "вызвалялі" сялян ад зямлі і коней. Забралі і ў яго ўсё, што здабыта было крывавымі мазалямі, што саграваў душу ў халодных сібірскіх бараках доўгімі бяссоннымі начамі.

Бацька быў чалавек разумны і бачыў, якое вызваленне і якую праўду нам навязалі. Але зрабіць нічога не мог, як і сотні такіх пакрыўджаных і абяздоленых.

Ён расказаў мне пра ўсё гэта, калі я быў яшчэ падлеткам, але ўжо разумеў што-колечы ў жыцці. Расказаў толькі адзін раз, а мне запомнілася назаўсёды. Бацька не скардзіўся на лёс і нікога не асуджаў, ён не заклікаў мяне помсціць некаму за свае пакуты. Казаў:

— У мяне была такая доля, у цябе будзе другая. Жыві, як падказвае сумленне, беражы годнасць. Ёй няма цаны.

Дык як ты думаеш, маючы такія карані, я мог уступіць у партыю? Бачыў, што яны думаюць адно, гавораць другое, а робяць трэцяе. На словах клапоцяцца пра народ, а на справе грабуць пад сябе, што можна і чаго нельга.

Тадэвуш памаўчаў, прыкурыў цыгарэту і, зацягнуўшыся дымам, сказаў:

— Канешне, каб я быў у партыі, то дабіўся б большых вышынь у навуцы. А так перада мной былі зачынены вельмі многія дзверы. Але бацькавы словы "беражы гонар" памятаў, як сваё імя. І, ведаеш, ад гэтага я шчаслівы.

Ён усміхнуўся і прамовіў:

— Вось так, сваяк.

Музыкі на двары зайгралі марш: гаспадары зноў запрашалі вясельнікаў за стол...

**Раман КАЛЕСНІКОЎСКІ**

НАВІНЫ

### Справілі дажынкі

У калгасе "Чырвоны партызан" Мастоўскага раёна закончылі жніво і па даўняй традыцыі вырашылі справіць дажынкі. Ад кіраўніцтва гаспадаркі перадавікі атрымалі прэмію па сем мільёнаў рублёў на траіх чалавек. Усе астатнія гулялі за ўласны кошт. Прынеслі ў сталоўку, што знаходзіцца ў вёсцы Галубы, два саракалітровыя бідоны самагонкі і закуску. Святкавалі ад душы. А назаўтра героі палёў прыйшлі пахмяляцца. Пасля непрацяглай бяседы некаторыя прылеглі адпачыць побач са сталоўкаю, іншыя, відаць, не задаволеныя размеркаваннем прэміі, распачалі адзін аднаму даказваць сваё вялікае майстэрства ды махаць кулакамі. Супакойваць іх вымушаны былі ўчастковы міліцыянер.

### Адпачылі ў Шчэціне

Дамоў у Слонім вярнуліся дваццаць дзяцей малодшага ўзросту, якія знаходзіліся на аздараўленчым адпачынку ў польскім горадзе Шчэціне.

Адпачынак дзяцей быў арганізаваны слонімскім касцёлам Св. Марыі і польскім аб'яднаннем аматараў зямлі Слонімскай і Навагрудскай, якім кіруюць былыя жыхары Слоніма Аліцыя Бодык і Андрэй Накаўскі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Собирайте ягоды в срок

Решением Гродненского областного исполнительного комитета установлены сроки сбора ягод в этом году: брусники — с 15 августа, клюквы — с 15 сентября.

Сбор дикорастущих ягод с нарушением установленных сроков их сбора влечет наложение штрафа на граждан в размере от 1 до 5 минимальных заработных плат.

Кроме этого, за каждый килограмм заготовленных ягод с нарушением сроков сбора взыскивается причиненный лесному хозяйству ущерб в размере 0,5 % минимальной заработной платы.

**Николай ДЕГТЯРЕВ**

ПРАБЛЕМА

# АБ ПАШТОВЫХ СКРЫНКАХ У ПАД'ЕЗДАХ

Паштовыя скрынкі ў нашых дамах устанаўліваюць будаўнічыя арганізацыі, якія здаюць у эксплуатацыю дамы. І, як належыць, у момант засялення дома жыльцамі, скрынкі ў поўным парадку. Але праз пэўны час іх знешні выгляд мяняецца: у скрынках паламаны дзверцы, няма замкоў і г.д. А ў трэцім пад'ездзе дома №42 на Чырвонаармейскай вуліцы, напрыклад, аднойчы ўсе паштовыя скрынкі садралі са сцяны і выкінулі на вуліцу.

Уявіць, чыіх шкодлівых рук гэта справа, не складана — вядома ж, нашых дзяцей. Рэдка дадумаецца дарослы чалавек зрабіць нядобрае. З цяжкасцю верыцца і ў тое, што паштовыя скрынкі псуюць выпадковыя людзі. Паўстае пытанне: ад каго залежыць стан нашых паштовых скрынак у пад'ездах? Перш за ўсё за стан паштовых скрынак адказваюць ЖЭСы. Але хіба прыставіш да кожнага пад'езда супрацоўніка ЖЭСа? Смешна! А значыць клапаціцца пра паштовыя скрынкі павінны самі жыхары дамоў.

Як сказаў дырэктар ВА ЖСК Канстанцін Зубко, клопат пра паштовыя скрынкі і ўвогуле пра парадак у пад'ездах добра адчуваецца там, дзе працуюць саветы грамадскасці і дамавыя камітэты. А начальнік ЖЭС-2 Мікалай Сыантовіч, у якасці прыкладу, назваў лепшым дамавы камітэт, які ўзначальвае Барыс Пратапопаў,



і пад'езд №3 дома №81 на Брэсцкай вуліцы, дзе старэйшым пад'езда з'яўляецца Іван Прыдыбайла. Тут не толькі паштовыя скрынкі, але і ўвесь пад'езд у добрым стане. Але Мікалай Мікалаевіч з жалем паведаміў і аб тым, што жыхарка дома №17 па праспекце Скарыны Зінаіда Дабрыян і жыхарка дома №25 на Тапалёвай вуліцы Вера Сцяпушчык давялі да антысанітарнага стану не толькі свае кватэры, але і пад'езды, у якіх жывуць. Што ўжо казаць пра паштовыя скрынкі?

Начальнік ЖЭС-3 Міхаіл Пясляк станоўча ацаніў дзейнасць савета грамадскасці, які ўзначальвае старшыня Сяргей Мірунц. Прайшоўшы па пад'ездах дамоў на Брэсцкай і Тапалёвай вуліцах, я ўпэўніўся, што паштовыя скрынкі выглядаюць нядрэнна ў дамах, дзе жывуць, у асноўным, пажылыя людзі. Але найбольш жудасная карціна са скрынкамі ў дамах для маласямейных, дзе жыллё лічыцца часовым.

Начальнік раённага вузла паштовай сувязі Яўгенія Руткоўская сказала, што іх прадпрыемства мае ў наяўнасці новыя віды скрынак для пад'ездаў. Іх выраблае фірма "Лёс". І яны ў большай ступені забяспечаць захаванне карэспандэнцыі. Кошт такой скрынкі на пяць кватэр складае 1.930.000. рублёў. Праўда, у гэтым выпадку плаціць прыйдзецца са сваёй кішэні.

Дык што, няма праблемы? На жаль, ёсць. І ў яе вырашэнні значная надзея ўскладаецца на бацькоў, якія павінны растлумачыць дзецям, што паштовая скрынка — гэта ўласная маёмасць людзей, і яе трэба берагчы. А тады і вы, і вашы суседзі змогуць без усялякай рызыкі зноў стаць падпісчыкамі любімых часопісаў і газет. У тым ліку і нашай — "Газеты Слонімскай"

**Валянцін ЧУРЫЛА**

 



# БУМЕРАНГ...

**Пять лет назад, на президентских выборах, мы проголосовали за справедливость. Это был выбор не разума, а чувства, имя которому обида, зависть, ненависть, злость. Обида за пропавшие на сберкнижке деньги, зависть к разбогатевшему соседу, ненависть к тем, кто нас обманул, не выполнил своих обещаний, злость на весь белый свет, потому что гневаться на других всегда легче, чем на себя самого.**

**Мы радовались, когда будущий президент обещал "поотрубать руки" жуликам, ворам и посадить их в тюрьму. Ибо это во имя "справедливости".**

**Мы злорадствовали, когда в мае 1995 года избили депутатов Верховного Совета 13-го созыва. Это было незаконно, но "справедливо".**

**Мы молчали, когда в августе того же 1995 года калечили бастовавших рабочих минского метрополитена. Потому что они зарабатывали больше нас. А это – "несправедливо".**

**И вот, спустя несколько лет, наша "справедливость" бумерангом вернулась к нам.**

### Меж двух огней

А справедливость – категория моральная. Каждый ее понимает по-своему. Милиция - тоже. С начала года только официально зарегистрировано более 30-ти жалоб от населения в отношении сотрудников Слонимского ГРОВД. В тоже время за пять месяцев 1999 года на 24% выросла преступность в сравнении с тем же периодом прошлого года. За этот же период в 2 раза увеличилось количество преступлений, совершенных в нетрезвом состоянии. В то же время министр внутренних дел вручил грамоту МВД председателю Слонимского горисполкома Олегу Лактюшину за "усилия в реализации задач оперативно-служебной деятельности правоохранительных органов города"(?!..). Доволен министр и тем, как прокуратура осуществляет надзор за соблюдением законности в нашем ГРОВД. Об этом свидетельствует министерско-милицейская благодарность Слонимскому межрайпрокурору старшему советнику юстиции Анатолию Явлашу.

### Полицейское государство *

Сегодня в нашей стране количество милиции превышает 130.000 чел. А еще ведь армия, КГБ и т.д. А на 9,5 миллионов шведов приходится 17.000 полицейских (вместе с тайной полицией - аналогом нашего КГБ). Относительно количества населения у нас полицейских в 6 раз больше, чем в Польше.

Но кое-кому и этого кажется мало. В частности, начальнику слонимского ГРОВД Мечиславу Батуре. В 1997 году по его инициативе Слонимский городской совет "ходатайствовал перед УВД Гродненского облисполкома о введении в штаты Слонимского ГРОВД взвода внутренних войск для организации патрульно-постовой службы на территории города и района". Эта задумка не осуществилась, так как сегодня и без того слонимчанин чувствует себя увереннее не тогда, когда рядом милиционер патрульно-постовой службы, а тогда, когда рядом милиционера нет.

Ведь люди часто даже не знают своего участкового инспектора.

Статистика подсказывает, что особое внимание следует уделить повышению профессионализма службы уголовного розыска. Однако к этому отделу, я считаю, пока больше вопросов, нежели ответов.

В последнее время в наших душах отступили обида, зависть, ненависть и злость. Вместо них поселился страх. Страх за себя, за родных, за близких и чужих...

### Будем вместе

... Страх не случайно стал определяющим чувством в поведении сегодняшнего белорусского обывателя. Власть существует только потому, что люди согласны подчиняться ей. А если каждый скажет власти: "Я с тобой не сотрудничаю" - власть превратится в ничто, т.к. у нее нет сил заставить нас подчиняться ей. Ведь аппарат насилия в Беларуси составляет всего 2% от общего числа населения. А тюрьмы (на сегодня переполненные) могут вместить лишь 1% населения.

Поэтому страх сознательно культивируется властью. Иного средства держать людей в повиновении у нее нет. Но страха нет вокруг нас. Он - внутри нас. Страх исчезнет, когда каждый из нас поймет, что он не одинок, исчезнет, когда мы будем вместе.

### Время и мы

В 1994 году мы сделали выбор. Свой. Для себя. И уже не обманешь самого себя - мол "такое было время". Какие мы, такое и время.

Сегодня, пять лет спустя, мы снова выбираем себе время.

**Михась ВАРАНЕЦ**



## Хроника страха

***30.06.99*** – Ольга Герасимчик, 27 лет, жительница д. Василевичи Слонимского района. Зверски убита. Труп найден в 150-ти метрах от ж\д моста через р. Щара.

***Июнь 99*** – бывший начальник Зельвенской милиции Сергей Максимов переведен для продолжения службы в Слонимский медвытрезвитель. Сергей Максимов "известен" финансовыми злоупотреблениями по прежнему месту службы. А полгода назад его подчиненные, угрожая оружием (стреляли в воздух) и применяя силу, пытались незаконно поместить 29-летнего рабочего, жителя г.п. Зельва, в медвытрезвитель.

***01.06.99*** – жители д. Рязановщина (пригород Слонима) выловили в р. Щара труп своего односельчанина 40-летнего Василия Минина. В. Минин 14.02.99 не вернулся домой. Родственники начали поиск. В больнице и медвытрезвителе Василия не было. А в дежурной части милиции сказали, что в тот день в 21.35 два слонимца сообщили, что по реке почти в центре города плывет труп. Пока готовились принять меры, труп ушел под лед. Через 2 месяца родственники узнали, что 14.02.99 Василий был в медвытрезвителе. Милиция официально признала, что В. Минина 14.02.99 в 20.20 подобрали лежащего пьяным сотрудники слонимской милиции и в 20.40 доставили в медвытрезвитель. В 21.20 В. Минин был выпущен из медвытрезвителя, за что начальник медвытрезвителя получил дисциплинарное взыскание.

***31.05.99*** – Сергей Ефимик, 22 года, житель Слонима. Не вернулся домой. Последний раз его видели на берегу Щары, на улице Огинского.

***09.05.99*** – Виталий Хомяков (22 года) и Анатолий Фидрик (21 год), жители Слонима. Ушли с дискотеки "Оскар" и не вернулись.

***06.05.99*** – Ольга Немчанкова, 17 лет, жительница Слонима. Найдена на набережной канала Огинского со следами насильственной смерти.

***12.04.99*** – начальник Мостовского РОВД Мечислав Улан, будучи пьяным, избил несколько человек, в том числе одного рукояткой пистолета в лицо, стрелял над головами людей.

***31.03.99*** – сотрудник Слонимского ГРОВД избил 24-летнего слонимца Михаила К., травмировав ему половые органы. При этом милиционер угрожал пострадавшему пистолетом.



IREX

## Расце злачыннасць на Гродзеншчыне

Падведзеныя вынікі працы праваахоўных органаў Гродзеншчыны за першае паўгоддзе 1999 года. Усяго здейснена 5.572 злачынствы – гэта на 366 больш, чым за адпаведны перыяд 1998 года. Крымінальнае становішча пагоршылася, у прыватнасці, у Слонімскім, Свіслацкім, Воранаўскім і Лідскім раёнах.

**БелаПАН**

---

* **Полицейское государство** – характеризуется неограниченным полицейским произволом, развитой системой слежки и надзора за действиями граждан, полной ликвидацией буржуазно-демократических прав, свобод и гарантий законности, жестокими (нередко без суда) расправами с революционными и национально-освободительными движениями"
Большая Советская Энциклопедия, второе издание, 1956, т.33, стр. 595.

## А что у соседей?

Известно, что в соседней Польше существуют как бы две полиции. Одна - местная полиция ("стража мей-ская" - черная форма).Она подчиняется местным властям и выполняет функции, подобные нашей патрульно - постовой службе, следит за правильностью парковки машин, осуществляет охрану различных мероприятий и т.д. Оружие "стражи мейские" не носят. Имеют право применять дубинки. Штрафы на граждан там накладывают, но полиции проценты от этих штрафов не отчисляются. Естественно, что и "планы" по "захвату" сограждан полицейским не доводятся. Немножко по иному борются в Польше и с алкоголизмом. "Уставших" граждан доставляют на дом и лишь в исключительных случаях - в медвытрезвитель. Ожидается, что в скором времени медвытрезвителей не будет. А деньги для борьбы с алкоголизмом и, в частности, на содержание медвытрезвителей, есть. Каждый предприниматель, торгующий спиртным, платит специальный "антиалкогольный" налог.

Другая полиция - государственная (голубая форма). Ее задачей является борьба с преступностью, обеспечение безопасности дорожного движения и т. д. Государственная полиция имеет централизованное подчинение (и финансирование) и независима от местных властей. Это сделано с целью исключения злоупотреблений служебным положением ("давления" на государственную полицию) со стороны местных властей.

**Николай АДАМОВИЧ**

## "Справа Алега Дэйкі" не закончана...



3.08.99. прадстаўнікі пацярпелай Дэйка Марыі Аляксееўны Алег Волчэк і Міхась Варанец у памяшканні слонімскай міжрайпракуратуры азнаёміліся з крымінальнай справай па факту смерці Алега Дэйкі. 09.08.99 Марыя Дэйка звярнулася да слонімскага міжрайпракурора Анатоля Яўлаша з просьбай правесці дадатковае (ужо трэцяе па ліку...) расследаванне. Настойлівасць пацярпелай грунтуецца на выніках адмысловай судмедэкспертызы, праведзенай па яе пятрабаванню.

Заўважым, што Міхась Варанец, як законны прадстаўнік пацярпелай, быў дапушчаны да ўдзелу ў крымінальнай справе толькі ў ліпені гэтага года, пасля ўмяшальніцтва абласной пракуратуры.

Але перад тым як азнаёміцца з матэрыяламі справы, А.Волчэк і М.Варанец былі пад роспіс папярэджаны аб крымінальнай адказнасці за выдаванне даных папярэдняга следства (6 месяцаў пазбаўлення волі ці штраф). Дарэчы, самі прадстаўнікі пацярпелай лічаць такое папярэджанне незаконным (бо на дадзены момант крымінальная справа закрытая) і маюць намер абскардзіць яго.

Нагадаем, што Алег Дэйка памёр 06.12.97 у слонімскім медвыцвярэзніку.

## ...а "Справа Васіля Мініна" пачынаецца

Слонімскай міжрайпракуратурай праводзілася праверка па факту смерці жыхара вёскі Разанаўшчына Васіля Мініна. Следчы Яўген Пашкоўскі 10.06.99. адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы з-за адсутнасці складу злачынства.

Але неўзабаве па рашэнню абласной пракуратуры (куды звярнулася са скаргай на рашэнне слонімскай пракуратуры сястра нябожчыка Раіса Мініна) крымінальная справа была ўзбуджана. Вядзе яе следчы пракуратуры Яўген Пашкоўскі.

Па словах пацярпелай Раісы Мінінай, якая 14.06.1999 г. азнаёмілася з матэрыяламі пракурорскай праверкі, у справе ёсць дакумент, які сведчыць, што міліцыя давала ў мясцовай газеце аб'яву аб знікненні Васіля Мініна і яго прыкметах. На самай справе такой аб'явы ў раёнцы не было.

**Алесь ЦІШКЕВІЧ**

 

ФУТБОЛ. 1-ая ЛІГА

# ПЕРАМОЖНАЯ СЕРЫЯ "КАМУНАЛЬНІКА" ПРАЦЯГВАЕЦЦА

## "Камунальнік" (Слонім) — "Орша" — 2:0

Слонім. 15 жніўня. Стадыён "Юнацтва". 4200 гледачоў.

Суддзя Валерый Пятровіч (Мінск).

Камунальнік: Кіркіж, Капельян, Карасёў (Ясінскі, 47), А. Дзегіль (В. Дзегіль, 59), Дым, Пагоцкі, Серада (Дубінін, 70), Савіцкі, Баль, Савань, Татарашвілі.

Галы: А. Дзегіль (34), Дубінін (89).

Матч праходзіў з перавагай гаспадароў, якія больш валодалі мячом, разнастайна атакавалі. Толькі вось у завяршэнні атак не хапала дакладнасці. Выдатны момант меў на 20 мінуце Аляксей Серада, які атрымаў мяч прама перад варотамі, але варатара гасцей не пераіграў. "Орша" адказвала контратакамі. Падчас адной з іх нападаючы гасцей не трапіў у пустыя вароты... Слонімцы спахапіліся, пайшлі наперад і адкрылі лік. Анатоль Дзегіль зблізку галавой адправіў мяч у сетку — 1:0.



Фота Мікалая Супруна



Фота Мікалая Супруна

Пасля перапынку зноў было шмат барацьбы і памылак. Памыляліся і гаспадары, і госці. "Камунальнік" спрабаваў замацаваць сваю перавагу, але другі гол забіць не ўдавалася, хоць моманты былі. Ператрымліваў мяч Татарашвілі, марудзіў Серада, не ўпэўнена гуляў Савань... Тым не менш, шчасце ў гэты дзень было на баку "Камунальніка". "Орша" некалькі разоў магла забіць гол, але выдатна гуляў Ігар Кіркіж, які, дарэчы, ужо пяць матчаў запар трымае "на замку" свае вароты. Таму ў пераможнай серыі "Камунальніка" вялікая заслуга нашага варатара.

Напружанне ў гульні захоўвалася да апошніх мінут. І толькі, калі Антон Дубінін "стрэліў" пад перакладзіну варот "Оршы", перамога слонімцаў ужо не выклікала сумненняў.

Слонімскі "Камунальнік" застаўся на трэцім месцы ў турнірнай табліцы, бо перамогі атрымалі і яго канкурэнты. Такім чынам вызначыліся тры каманды, якія, праўдападобна, і пазмагаюцца за выхад у лігу мацнейшых. У суботу, 21 жніўня, "Камунальнік" будзе сустракацца ў Мастах з мясцовым "Нёманам".

**Сяргей ЁРШ**

# ЦЯЖКАЯ ПЕРАМОГА Ў ГАСЦЯХ

Лідэр першынства Беларусі ў першай лізе мастоўскі "Нёман" чарговую гульню правёў у сталіцы з мясцовым "Дынама-Юні".

Напэўна сёлета гэта была самая цяжкая гульня для мастаўчан. Тым не менш, у першым тайме яны дамінiравалі на полі, штурмавалі вароты гаспадароў. Апошнія гулялі жорстка і востра контратакавалі. Аднак адкрыць лік да перапынку мастаўчане не змаглі.

На пачатку другога тайма гульня выраўнялася. Дзесьці на дзесятай мінуце падчас контратакі мастаўчан Алег Вярбіцкі забівае гол, які прынёс "Нёману" перамогу ў гэтым матчы.

На думку трэнера каманды Віктара Бубліка, палова перамогі яго выхаванцаў належыць балельшчыкам, якія прыехалі на аўтобусе з Мастоў (40 чалавек) і горача падтрымлівалі сваю каманду.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА пасля 19-га тура

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Нёман | 19 | 11 | 4 | 4 | 37:22 | 37 |
| 2. Ведрыч-97 | 18 | 10 | 6 | 2 | 33:18 | 36 |
| 3. Камунальнік (Сл.) | 19 | 10 | 5 | 4 | 34:20 | 35 |
| 4. Граніт | 19 | 8 | 7 | 4 | 26:17 | 31 |
| 5. Дынама-Юні | 19 | 8 | 6 | 5 | 28:23 | 30 |
| 6. Камунальнік (Св.) | 19 | 8 | 6 | 5 | 24:23 | 30 |
| 7. Тарпеда | 19 | 7 | 8 | 4 | 35:28 | 29 |
| 8. ЗЛіН | 19 | 8 | 4 | 7 | 30:18 | 28 |
| 9. Рагачоў | 19 | 6 | 8 | 5 | 31:28 | 26 |
| 10. Керамік-Бяроза | 19 | 6 | 5 | 8 | 21:27 | 23 |
| 11. Орша | 19 | 5 | 7 | 7 | 25:25 | 22 |
| 12. Палессе | 19 | 5 | 6 | 8 | 21:33 | 21 |
| 13. Зорка-ВА-БДУ | 19 | 4 | 7 | 8 | 23:33 | 19 |
| 14. Вейна-Днепр | 18 | 4 | 6 | 8 | 19:32 | 18 |
| 15. Пінск-900 | 19 | 4 | 5 | 10 | 21:30 | 17 |
| 16. Віцьбіч-Дынама Энерга | 19 | 0 | 4 | 15 | 16:47 | 4 |

сезон-99 • 1-я ліга • сезон-99 • 1-я ліга

## Вынікі астатніх матчаў тура:

Дынама-Юні — Нёман — ........................0:1

Камунальнік (Св.) — Зорка-ВА-БДУ — .......2:0

Тарпеда — Пінск-900 — ........................3:0

Рагачоў — Керамік-Бяроза — ....................2:1

Граніт — Ведрыч-97 — ............................0:1

Віцьбіч-Дынама-Энерга — ЗЛіН — ............0:2

Вейна-Днепр — Палессе — .......................5:2

# Футбольная статыстыка

- Слонімскі "Камунальнік" традыцыйна лепш гуляе на сваім полі. Дома нашы футбалісты атрымалі 8 перамог і пацярпелі 2 паражэнні. У гасцях слонімцы прайгралі 2 разы, 5 матчаў згулялі ўнічыю і двойчы перамаглі.
- "Камунальнік" забіў 34 мячы (з іх 22 на сваім полі) — трэці вынік у лізе. Прапушчана 20 мячоў, з якіх дома толькі 9. Па гэтым паказчыку слонімцы саступаюць "Ведрычу-97", ЗЛіНу і "Граніту".
- Галы ў нашай камандзе забівалі 8 чалавек: Георгій Татарашвілі — 15, Яўген Савань — 7, Алег Савіцкі — 4, Антон Дубінін — 3, Анатоль Дзегіль, Аляксей Серада і Алег Баян — па аднаму. Яшчэ адзін гол на рахунку Пятра Уладзімірскага, які ўжо адлічаны з каманды. У дамашнім матчы другога круга з жодзінскім "Тарпеда" абаронца гасцей Кушалеў забіў гол у свае вароты.
- Георгій Татарашвілі з'яўляецца лепшым бамбардзірам першай лігі. На два галы менш за яго забіў нападаючы мастоўскага "Нёмана" Алег Вярбіцкі.
- Футбалісты "Камунальніка" часцей забіваюць у другім тайме — 20 мячоў, і толькі 14 у першай палове гульні. Прапускаюць слонімцы больш таксама ў другім тайме — 11 мячоў.
- Сёлета вароты каманды абаранялі Ігар Кіркіж і Сяргей Бекіш. У 5 гульнях Бекіш прапусціў у свае вароты 7 мячоў (яшчэ 7 мячоў прапушчана ў кубкавым матчы з "Гомелем"). Кіркіж у 13 гульнях прапусціў 12 мячоў. У сямі гульнях ён захаваў свае вароты недатыкальнымі. Як бачым гэтага, у гэтых матчах "Камунальнік" атрымаў 6 перамог і 1 нічыю.
- Тры перамогі з буйным лікам на рахунку "Камунальніка". З лікам 3:0 слонімцы выйгралі ў гасцях у "Камунальніка" (Светлагорск), 5:0 — у "Рагачова" і 5:1 — у "Віцьбіча-Дынама-Энерга". Двойчы "Камунальнік" прайграваў з буйным лікам 0:3 (дома "Палессю" і ў гасцях ЗЛіНу).
- Матчы "Камунальніка" у Слоніме паглядзела 28200 чалавек (у сярэднім, 2820 чалавек за гульню). Найбольш балельшчыкаў сабралася 15 жніўня на гульню "Камунальніка" з "Оршай" — 4200. Найменш прыйшло 20 чэрвеня на гульню з "Палессем" (Мазырскі раён) — 1500.
- Сёлета "Камунальнік" ужо займаў першае месца, якое ўтрымаць не здолеў. Падчас чэрвеньска-ліпеньскага крызісу наша каманда апусцілася на дзесятае месца, але ў жніўні ўзнялася на трэцяе.

**Падрыхтаваў Алег ТАЧОНЫ**

БОКС

# БРОНЗА З БАКУ




Фота Мікалая Супруна

*Аляксей Рахунок і Уладзімір Піроўжнік.*

Слонімец Аляксей Рахунок стаў бронзавым прызёрам першынства Еўропы па боксу сярод кадэтаў (юнакі 15-16 гадоў). На гэтых спаборніцтвах у сталіцы Азербайджана Баку нашу краіну прадстаўляла шэсць спартсменаў. Аляксей выступаў за зборную Беларусі ў вагавай катэгорыі 69 кг.

Аляксею Рахунку 16 гадоў, ён вучыцца ў восьмай слонімскай школе. Ужо чатыры гады займаецца ў ДЮСШ № 1 у трэнера Уладзіміра Піроўжніка. На міжнародных спаборніцтвах ён яшчэ не выступаў, гэта быў першы падобны турнір Аляксея.

Сярод 26 краін-удзельніц чэмпіянату Беларусь заняла шостае каманднае месца. На першым месцы — Расія, гаспадары былі другімі. На думку Аляксея, у паўфіналах суддзі былі не зусім аб'ектыўнымі, дапамагалі азербайджанскім спартсменам... Нашаму зямляку не хапіла вопыта. Атрымаўшы перамогу над харвацкім баксёрам, ён прайграў украінцу. Тым не менш — бронзавы медаль. А цяпер напярэдадні ў Аляксея Рахунка чэмпіянат свету сярод юнакоў.

"Ён у мяне спачатку не вылучаўся, — гаворыць Уладзімір Піроўжнік пра свайго выхаванца. — Былі хлопцы, мацнейшыя за Аляксея. Таму я на яго не звяртаў асаблівай увагі. Але юнак малайчына. Сваёй працавітасцю, мэтанакіраванасцю дасягнуў такіх выдатных вынікаў! І яго майстэрства расце".

**Сяргей ЁРШ**

НАВІНЫ СПОРТУ

***

16 жніўня 1998 года ў Брэсце стартаваў велапрабег па маршруту Брэст — Гродна, прысвечаны 2000-годдзю Нараджэння Хрыстова.

Група веласіпедыстаў, у склад якой уваходзяць 30 юнакоў — евангелісцкіх хрысціян-баптыстаў, прыбудзе ў Слонім 22 жніўня. Сярод іх двое слонімцаў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

***

Вучаніца СШ №10 г.Слоніма Ганна Барысік заняла восьмае месца на першынстве свету па шашках сярод кадэтаў (юнакі і дзяўчаты 1983 года нараджэння і маладзей), якое адбылося ў Алушце на Украіне.

З 48 удзельнікаў Беларусь у гэтых спаборніцтвах прадстаўляла толькі наша зямлячка.

**Аляксандр АНІСЬКА**

***

Пасля перапынку аднавіліся гульні на чэмпіянаце Гродзенскай вобласці.

Слонімскае "Дынама" прымала на сваім полі "Аўтапровад" (Шчучын). Нягледзячы на тое, што дынамаўцы былі ўмацаваны шэрагам ігракоў "Камунальніка", гульня закончылася ўнічыю 1:1. У слонімцаў гол забіў Дзмітрый Аначанка.

А вось сапернік слонімскага "Талента" шчучынскі "Аўтапровад-2" на гульню не прыехаў. Таму футбалістам са Шчучына залічана паражэнне.

***

Слонімскі "Талент" (хлопцы 1985-86 гадоў нараджэння) змагаўся за выхад у фінальную частку абласных спаборніцтваў на прыз клуба "Скураны мяч".

Слонімцы перамаглі каманды Карэліч — 8:0, Зэльвы — 5:0, згулялі ўнічыю 1:1 з "Дзятлавам" і з камандай Кастрычніцкага раёна Гродна. Аднак, прайграўшы "Смаргоні" з лікам 0:1, "Талент" выбыў з барацьбы за прыз. Не прайшлі гэты этап і футбалісты з "Талента-87" (хлопцы 1987-88 гадоў нараджэння).

**Алег ТАЧОНЫ**